# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1635) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 13 ВЕРАСНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Від шпіталя ад вул. Ліповай.

## ГАЙНАЎСКІ ГІГАНТ

На больш за 14 гектарах на вул. Ліповай у Гайнаўцы, пад Белавежскай пушчай, вырастаюць блокі вялікага шпіталя. Некаторыя часткі гэтага комплексу ўжо маюць выгляд гатовых будынкаў, на іншых жа праца ў разгары — тырчаць тысячы стальных прутоў.

Галоўны будынак, дзе будуць ложкі для хворых, ужо гатовы, іншыя чатыры блокі — па-рознаму. Напрыклад, блок „Д" тынкуецца, „В" — у сырым стане. Адным словам, да канца пабудовы работы яшчэ многа. Тым больш, што праца не ідзе рытмічна па віне прадпрыемстваў, якія ўспамагаюць будову гайнаўскага шпіталя. Яны адцягаюць пастаўкі абсталявання, напрыклад, можна было б заняцца заканчэннем аперацыйнага блоку, але няма катлоў для цэнтральнага ацяплення.

Вельмі дзіўна вядзе сябе „Інсталь" з Беластока, які не выконвае механічнай інсталяцыі ў гатовым блоку і тым блакіруе заканчэнне пабудовы гэтай часткі. Справа беластоцкага „Інсталя" апынулася аж у міністэрстве, але і тое не памагае, бо „Інсталь" мае сваё міністэрства, а Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства, якое будуе шпіталь, — сваё. І будзь тут разумны, калі няма згоды на вярхах.

Паводле плана шпіталь у Гайнаўцы мае быць гатовы ў 1990 годзе. Ці будзе? Напэўна большая яго частка будзе.

Найхутчэй будзе закончаны будынак-палата для хворых, гэта галоўны корпус на 272 ложкі, з відам на Белавежскую пушчу і выхадам у парк, які тут таксама ў будучыні будзе пасаджаны. Даволі добра ідуць працы пры амбулаторным будынку, таксама аперацыйным і рэнтгенаўскім.

Інжынер Уладзімір Сахарчук кіраўнік будовы, павёў нас паказаць увесь комплекс будучага шпіталя-гіганта. Трэба прызнаць, што ўсё выглядае тут ім-

(Працяг на стар. 5)

## ЕДУЦЬ У БЕЛАВЕЖУ ЭКСКУРСІІ

Усё паказвае, што турысцкі рух у Белавежы ізноў развіваецца. Ён заламаўся пасля ўвядзення ваеннага становішча, але потым, калі сітуацыя ў дзяржаве наладзілася, рух памаленьку пачаў ізноў разгортвацца. Лік прыезджых расце з году ў год і, хаця ён яшчэ не дасягнуў узроўню другой паловы 70-тых гадоў, то ўсё-такі пастаянна да яго набліжаецца.

Белавежу да канца ліпеня г.г. наведала каля 70 тысяч чалавек, у тым ліку амаль 6 тыс. асоб з заграніцы. У параўнанні з аналагічным перыядам з 1986 г., турыстаў было больш на 3 тыс. чалавек. Замежных жа — на амаль 1,9 тыс. асоб. Яны прадстаўлялі аж 36 дзяржаў: ГДР, СССР, ФРГ, Чэхаславакію, Францыю, ЗША, Балгарыю, Вялікабрытанію і інш. З экзатычных краін у Белавежу заглядалі жыхары, напрыклад, Малайі, Карэі, Кітая, Аргенціны, Бразіліі, Гандураса.

Школьнікі з пачатковых і сярэдніх школ састаўляюць зараз амаль 70 прац. усіх турыстаў і экскурсантаў, якія наведваюць нашу жамчужыну. Каб не моладзь, белавежскія турысцкія аб'екты пуставалі б.

Што сёлета можна было ў Белавежы ўбачыць новага? Адказ вельмі просты — нічога! Нават не адчынілі паказнога запаведніка зуброў (бліжэй мястэчка), што прадбачвалася на 22 ліпеня. Гэты запаведнік — сапраўднае гора! Яго рамантуюць ужо цэлых шаснаццаць гадоў. А колькі было тэрмінаў адкрыцця — го! го! На пальцах абедзвюх рук не палічыш. Цяпер гаворыцца: у другой палове жніўня г.г.

Турыст, які трапіць у сэрца Белавежскай пушчы, вядома,

(Працяг на стар. 3)




## ГРОШ ЦАНА ІДЭІ БЕЗ СЭРЦА

У сваім артыкуле я не буду вельмі размахвацца, а пішу наконт публікацыі М. Махнацката „Няма ідэі — няма нічога", змешчанай у дваццаць пятай „Ніве". Так, гэта прыгожыя словы: ідэя, ідэалогія. Даволі зазірнуць у энцыклапедычны даведнік, у якім ясна растлумачаны гэтыя паняцці.

Кожная нацыя і кожная краіна маюць уласную ідэю і ідэалогію. І мы, беларусы, павінны мець уласную гэтак жа! Ах, колькі такіх беларусаў, якія беларусы адно на паперы, у рубрыцы дакумента, але па-праўдзе яны засталіся ідэалагічнымі бязбацькавічамі, байструкамі. Старыя з іх нават хваляцца як бы рэвалюцыйным сваім мінулым, аднак, для грошай, для важкай пенсіі, аказваецца. Прыйдзе такі, з Божае ласкі ветэран, на публічны сход і плюе на беларускае слова, пачуўшы яго ад каго-небудзь. Гэтакаму „рэвалюцыянеру" ўсё панскае падавай, таксама і мову „панскую". Дык за што ты змагаўся, старэча, калі так гыркаеш, як даваенны шляхціц які?! А падсунь яму пад вочы нашу „Ніву", дык за гэта гатовы ён на цябе ў суд падаць.

У маёй ваколіцы — ведаю пра гэта добра — аніводзін дзеяч не ўплаціў хаця б сімвалічную залатоўку на збудаванне таго беларускага музея ў Гайнаўцы. Сяму-таму з іх я сказаў пра гэта проста ў вочы. А яшчэ як вочы вылупілі ад дзіва нібы якога! Але няхай у той Гайнаўцы давалі б дарэмшчыну якую, дык усе яны, да апошняга, зараз жа далучыліся б і пабеглі б туды, не чакаючы аўтобуса ПКС. Пешкі дабраліся б за дарэмшчынай! Не аднаму з іх хапае адвагі выступаць перад дзецьмі ў школах у гадавіну якую ды павучаць там пра мараль ды ідэйнасць. Выйдзе пасля з такой школы, у якой меў сустрэчу з вучнямі, і трухам бяжыць у краму па дэфіцытны тавар, каб накупіць па-за чаргою (размахваючы сваёй камбатанцкай кніжачкай).

Шаноўны Махнацкі! Адна ідэя, такая без сэрца, казённая, гэта аніякая ідэя, а балбатня. Нашы людзі наогул разумеюць, чаго нам не хапае, і што далей? Разумеюць ды анічога не робяць, каб было ўсё інакай з нашымі справамі. Так і Польшча даўней прапала, тая шляхецкая: усе гаварылі і пісалі, што прападае Польшча, а Польшча як прападала, так і прапала са-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)



праўды. І колькі трэба было натугі наступным пакаленням, каб яе ажывіць і вярнуць на свет Божы!

**Мікалай Панфілюк**

## ЯК ПАЧАЛОСЯ, І ЯК СКОНЧЫЛАСЯ

У трыццатай „Ніве" змешчана адгалоска Уладзіміра Юзвюка, якая датычыць беларускай гімназіі ў пасляваенным Беластоку.

Хто быў стваральнікам гэтае гімназіі? Зараз пасля ўступлення савецкіх войск у сорак чацвертым годзе, з'явіўся ў маёй кватэры Б. Субоцін. Ён прыйшоў са справай, якую прадставіў так: трэба стварыць беларускія гімназію і пачатковую школу ў Беластоку. Патрэбны будынак. Я запрапанаваў пусты будынак на вуліцы Кіеўскай. І мы, ён і я, не адкладваючы, пайшлі агледзець той будынак. Субоціну спадабаўся. Пачалі старанні наконт адпаведнага абсталявання для вучобы. За гэта ўзяўся я сам, арганізаваў брыгаду майстроў (сталяроў і маляроў), раздабыў матэрыялы.

Адміністрацыйныя справы, у тым ліку легалізацыю школы, прыняў на сябе Б. Субоцін.

Спатрэбілася каля дзесятка майстроў, каб у хуткім часе нарабіць столькі партаў, прытым бясплатна. Усе яны згадзіліся зрабіць іх для беларускай школы, за што яшчэ раз ім дзякую тут! Дакладна калі была адчынена гімназія — не памятаю. Памятаю, што сакратаркай стала ў ёй былая гімназістка віленскай Беларускай гімназіі Таццяна Лукашук, пасля замужжа — Лашэвіч. На сходзе бацькоў выбралі мяне старастай бацькоўскага камітэта, а Людмілу Скіпетраву — сакратаром. Трох іншых членаў камітэта я ўжо, на жаль, не памятаю. Работы мы мелі мноства, усё давалася цяжка, перашкаджалі і асобы, непрыхільныя нашай гімназіі, школе. Нямала нерваў патрацілі мы на перамаганне пазіцыі школьнай кураторыі ў Беластоку, якая лічыла, што трэба ліквідаваць урокі на беларускай мове. Асабліва дамагалася гэтага куратар Красоўская. Былі мы даволі адзінокія. Тыя, якія маглі б рэальна падтрымаць нас у канфрантацыі з беластоцкай кураторыяй, сядзелі ціха, баяліся быць абвінавачанымі ў нацыяналізме. Гэтыя людзі толькі пасля бессаромна хваліліся сваім беларускім нібы-змагарствам і выдавалі сябе вялікімі беларусамі. Але тады...

У сувязі з той драматычнай сітуацыяй, у якой апынуліся гімназія і пачатковая школа пры ёй, я на пасяджэнні бацькоўскага камітэта выступіў з прапановай. каб усе мы падаліся ў адстаўку.

Пра далейшы лёс гэтай Беларуска-рускай гімназіі і Пачатковай школы ў Беластоку ўсім вядома.

**Кастусь Сідаровіч**, Беласток.

## ВІКТАР ШВЕД У „ЛіМе"

Як паведамляе „Літаратура і мастацтва", па запрашэнні Саюза пісьменнікаў Беларусі, у рэспубліку прыехаў і знаходзіцца ў Доме творчасці „Іслач" Віктар Швед. Мінскі тыднёвік зрабіў з нашым паэтам інтэрв'ю і змясціў чатыры ягоныя вершы. ЛіМ у іншай публікацыі адзначае таксама выступленне Віктара Шведа на свяце, прысвечаным Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, якое адбылося ля вёскі Малая Люцынка Валожынскага раёна.

## УСЮ НОЧ ПРА БЕЛАРУСЬ

У нядзелю, 19 ліпеня, я акурат ганяўся за сваім быдлам на пасбішчы за вёскай, калі ўбачыў, што хтосьці ідзе ў мой бок. Па паходцы і выглядзе я здалёку пазнаў Сакрата Яновіча. Мы разгаварыліся і я з прыемнасцю заўважыў, што Яновіч навылёт ведае наша гаспадарскае жыццё-быццё. Я паказаў яму свае поле і лес, статак жывіны і будынкі. Пры нагодзе падыскутавалі, што і дзе лепей будзе зрабіць, пасеяць або выгадаваць ці дабудаваць. Агледзелі і хатнюю бібліятэку, і з сям'ёю пагаварылі.

Пад вечар Сакрат Яновіч меў сустрэчу са студэнтамі, якія наладзілі турыстычны паход „Бацькаўшчына", закончыўшы яго ў нашых Дубічах Царкоўных. Яны расклалі вогнішча над недалёкім Бахматоўскім возерам. Сакратавае выступленне выклікала ажыўленую дыскусію, у час якое гаварылі не толькі студэнты, але і тутэйшыя людзі, што насходзіліся. Шчырая і надзвычай цікавая размова працягвалася праз усю ноч аж да світання. І мой сын быў там, і потым няраз расказваў дома пра пачутае на сустрэчы. Дыскутавалі, трохі спявалі і зноў дыскутавалі, а поначнае рэха даносіла да Дубічаў — і спевы і галасы больш бойкіх дыскутантаў. Нашы беларускія справы такія, што іх і за ўсе ночы тыдня не абмяркуеш! Добрая была гэта імпрэза, патрэбная і разумная, дзякуючы ёй шмат што зрабілася больш ясным, зразумелым.

**Мікалай Панфілюк**

## ПРЫКАЗКІ

Добрая слава даражэй багацця.

*

Крывога дрэва не выпрастаеш.

*

Лепей на свет не радзіцца, як ліхім чалавекам быць.



*Палац Браніцкіх у Беластоку. Мал. Уладзіслава Петрука.*



## КАРОТКАЯ РАДАСЦЬ

На Беласточчыне сёння ўжо 16 тысяч пенсіянераў. Адным з іх з'яўляецца Мікалай Пучко, нумар пенсіі якога 10017190491. Кожны месяц пісьманосец прыносіць яму 11010 зл. Праўда, гэтыя дзесяць ён ужо адпускае пісьманосцу. І вось жыве так чалавек як можа. Так плануе ён свае выдаткі, каб хапіла на яду, ды яшчэ каб крышку засталося на іншыя патрэбы. Часамі зайздросціць тым, якія маюць месячную пенсію 50 і 60 тысяч, а ёсць і такія сярод яго знаёмых.

У месяцы жніўні б.г. пісьманосец не прынёс яму пенсіі, а прынёс паведамленне, каб сам з'явіўся за ёй на пошту, паколькі сума грошай вялікая — 428510 зл. Пайшоў Мікалай Пучко і атрымаў прысланыя яму вялікія грошы.

— Можа нешта выраўналі, можа няправільна налічылі суму, калі ён адыходзіў на так званы заслужаны адпачынак, а цяпер прышла кампенсацыя за ўсе гады, — так па-рознаму думаў ён, але хадзіў задаволены і што нейкі час вымаў кучу грошай, усё пералічваў іх ды пералічваў.

Праўда, паяўлялася думка і аб тым, што нейкая пані ў ЗУСе памылілася. Але яму ж сказалі, што ў ЗУСе пенсіі налічвае людзям камп'ютэр, а ён дакладны.

Праз нейкі час прыйшло яму ізноў паведамленне. На гэты раз яго прасілі выясніць, чаму ён атрымоўвае так многа пенсіі. І калі сталі выясняць, высветлілася, што гэта камп'ютэр памыліўся і менавіта дзякуючы яму Мікалай Пучко мог парадавацца, хаця нядоўга, такой вялікай сумай грошай.

Ну што ж? Трэба грошы вяртаць назад. Дзяржаўныя грошы ніколі не прападаюць.

Кароткая была радасць Мікалая Пучко ў месяцы жніўні.

**(мх)**

(Працяг са стар. 2)



ба выкінуць на сметнік.

Віктар Швед пачаў пытаць, каго дырэктар мае на думцы, і той адназначна адказаў: намеснік.

Мы, як маглі, так пацяшалі дырэктара, хаця ведалі, што вынік нашай пацехі вельмі слабы.

Калі мы выйшлі ад дырэктара, Віктар Швед, моцна ўзрушаны ўсёй справай, сказаў, што мы павінны пайсці ва ўстанову, ад якой залежыць лёс дырэктара і яго намесніка. Я Віктара адвёў ад гэтага намеру, гаворачы, што я ўжо там быў і што ісці другі раз не трэба, бо там вераць намесніку.

Ну, а цяпер фінал. Дырэктар неўзабаве адышоў на раннюю пенсію, і дырэктарам установы стаў намеснік. Былы дырэктар пажыў ужо нядоўга і даволі хутка памёр. І тут узыходзім на вяршыню крывадушнай гары. Над магілай былога дырэктара прамаўляў новы дырэктар. І як прамаўляў?! Тыя, што там былі, акрэслілі гэта так:

— Аж рваў зямлю, амаль рыдаў і гаварыў, што былы дырэктар быў чалавекам высокай ідэйнасці, што характарызаваўся прагрэсіўнасцю, што разумеў хараство нашых дзён, што ўліваў усім у сэрцы аптымізм і веру ў нашу сістэму.

Адным словам, гаварыў усё, поўнасцю адваротнае ў параўнанні з тым, што раней даносіў на дырэктара.

Мне здаецца, што калі б была на свеце справядлівасць, дык былы дырэктар уваскрос бы, а новы споўз бы ў магілу. Так аднак не сталася. Новы дырэктар жыве да сёння, хаця ўжо не працуе дырэктарам. Змяніў працу і нават горад. Сустракаю яго і бачу, як з дня на дзень павялічваецца ў яго крывадушнасць.

**Алесь Барскі**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę prasową zamieszczoną w „Niwie” nr 30 z dnia 26 lipca w sprawie braku nawozów mineralnych i środków ochrony roślin uprzejmie informuję:

1. W planach zaopatrzenia rolnictwa w nawozy mineralne i środki ochrony roślin, Wydział Rolnictwa, Gospodarki Żywnościowej i Leśnictwa traktuje priorytetowo przedkładane przez Wojewódzki Związek Rolniczych Spółdzielni Produkcyjnych zapotrzebowanie na pełne zaopatrzenie poszczególnych spółdzielni we wspomniane środki produkcji.

Biorąc to pod uwagę również Spółdzielnia w Pawłach nie powinna odczuwać braku ani nawozów, ani środków ochrony roślin.

2. Stwierdza się; że w zakresie nawożenia mineralnego Spółdzielnia w Pawłach pomimo zaleceń nie składała w roku gospodarczym 1986/87 zamówień handlowych do WZGS „Samopomoc Chłopska” na dostawy pełnowagonowe, a zaopatrywała się w nawozy mineralne w Gminnej Spółdzielni w Zabłudowie na ogólnie przyjętych zasadach. Spowodowało to, że w wyniku nierytmicznej realizacji dostaw nawozów przez przemysł chemiczny oraz nadmiernego wykupu niektórych asortymentów przez rolników indywidualnych na skutek planowanej podwyżki cen, rzeczywiście wiosną br. wystąpiły okresowe braki saletry amonowej, saletrzaku, mocznika oraz fosforanu amonu i polifoski, co zaważyło na prawidłowym zaopatrzeniu we wspomniane nawozy również Spółdzielni w Pawłach.

3. Nie można przyznać racji spółdzielcom o notorycznym braku dostatecznej ilości nawozów mineralnych ponieważ wojewódzki plan w zakresie gospodarki nawozowej co roku jest wykonywany, w tym również i w rolniczych spółdzielniach produkcyjnych.

4. Na bieżący rok gospodarczy przedłożone przez WZRSP potrzeby nawozów zostały ujęte w planie zaopatrzenia. W związku z tym RSP w Pawłach powinna w uzgodnieniu ze swoją jednostką nadrzędną dokonać zmian w systemie zaopatrzenia w nawozy na rzecz dostaw pełnowagonowych co pozwoli na zastosowanie racjonalnego nawożenia w myśl zaleceń Okręgowej Stacji Chemiczno-Rolniczej

5. W związku ze wzrostem rozmiaru zabiegów ochrony roślin oraz ograniczonymi w ostatnich latach możliwościami krajowego przemysłu chemicznego i importu zaopatrzenia rolnictwa w szereg pestycydów było niezadowalające. Przyjęty w województwie system rozdzielnictwa deficytowych preparatów uwzględnił w pierwszej kolejności zaopatrzenie rolniczych spółdzielni produkcyjnych w tym również i RSP Pawły o czym świadczy przydział herbicydów zbożowych na 100% powierzchni uprawy zbóż, przy średnim zabezpieczeniu potrzeb województwa w około 60%. Nie było natomiast możliwości w zaopatrzeniu spółdzielni w herbicydy do wiosennego zwalczania chwastów rzepaku.

**Z-ca Dyrektora Wydziału**
**mgr inż. Ryszard Jaworowski**

# ЛЁНІК у НЬЮ-ЙОРКУ

16 і 17 мая 1987 г. адкрыты дзве персанальныя выстаўкі Лёніка Тарасэвіча ў Нью-Йорку: адна ў Дэйман Брандт з дзесяццю работамі на паперы і другая — у Эдвард Торп Галерэі, на якой паказвалася 12 работ на палатне з апошніх двух гадоў. Выстаўкі адбываліся да паловы чэрвеня г.г.

У сувязі з гэтым вялікая амерыканская газета „Нью-Йорк Таймс“ пісала 5 чэрвеня:

„Мастацтву васьмідзесятых гадоў характэрны пастаянныя матывы і тэмы, якія ідэнтыфікуюць з мінімалізмам і фармалізмам, і якім гэта мастацтва намагаецца паслядоўна вярнуць усё тое, што мінімалізм і фармалізм з такой рашучасцю адкінулі.

У работах, паказаных на першых амерыканскіх выстаўках Леана Тарасэвіча, трыццацігадовага польскага мастака, пражываючага ў вёсцы недалёка ад савецкай мяжы, — палосы, лініі і пункты насычаны святлом ды рытмам лясоў Усходняе Еўропы. Выстаўкі гэтыя паказваюць, у якой меры мастакі, пражываючыя здаля ад галоўных плыняў, адначасна, сарыентаваны ў найновых падзеях у свеце мастацтва.

Карціны, якія бачым у Эдвард Торп Галерэі, працінаюць простыя і дыяганальныя лініі, узнікшыя пад непасрэдным уплывам адценняў траваў, дрэваў ды ценяў ад іх. Святло, якое адыгрывае надзвычай важную ролю ў гэтых карцінах, пранізвае ўсё, бы дождж або вецер. Моц уздзеяння гэтых карцінаў у тым, што мастак умее правесці свае лініі абстрактным чынам ды пазбягае антропамарфізму. Чым болей абстрактнымі здаюцца нам яго карціны, тым адчувальней сведчаць яны пра іншасць прыроды, якая як жа трапятліва ўплывае на яго. Тарасэвіч, аднак, яшчэ не вырашыў, што яму больш даспадобы: пераказ уласнага ўспрыняцця прыроды, ці, можа, лепей будзе стварыць закончаныя карціны? Гэта яго нерашучасць адчуваецца ў паўторах непаслядоўнасцяў у паказе свайго: некаторыя лініі, менавіта, набываюць вялікага імпэту ў ніжняй частцы карціны, застаюцца пругкімі ў сярэдніх фрагментах твора, і робяцца вялымі ды хісткімі, быццам макарон, уверсе.

Выстаўку ў Дэйман Брандт Гэлеры складаюць работы Тарасэвіча, выкананыя на паперы, і інсталяцыі. На найвялікшай з іх відаць пянькі дрэў, размешчаныя так, што нагадваюць яны сабою надмагільныя знакі ў відэа „Брус Спрынгсцін Борн ін дэ Ю. Эс. Эй“ (Народжаны ў ЗША). У выніку, гэты малюнак уздзейнічае яшчэ і тым, што лініі на ім збягаюцца ў кірунку пункта, які трэба шукаць ужо па-за рамкамі твора, за яго паверхняй. Іншы рысунак нагадвае краты, якімі забяспечваюць нанач крамы ў Нью-Йорку, пры той аднак жа розніцы, што крата на малюнку выканана мастаком з пнёў. Чорныя лініі на яшчэ іншым малюнку выклікаюць асацыяцыі накшталт бачанай з лёту птушкі запруджанасці на шматпавярховым скрыжаванні дарог і вуліц, але і тут згадваюцца дрэвы, што і прыдае гэтаму твору болей чалавечнае светаразуменне. Інсталяцыя, у выглядзе ліній, выведзеных у форму літары „Ль“ (лацінскай — ад рэд.) праз усю даўжыню абедзвюх сцен, трохі падобная на фармалістычны шэўрон, гэта як быццам трэснутая пад дрывасецкай сякераю вялізная калода.

Такія ўласныя работы маладога мастака, поўнага рухавасці і задум“



**Лёнік Тарасэвіч у родным валілаўскім лесе**
**Фота Тадэвуша Рольке.**

# ШЛЯХАМ ГАДОЎ

На вестку аб трагічным ходзе спраў у Вільні Кейстут, вядома, спыніў здабыванне Северщчыны і паспяшаўся на дапамогу сыну. Спазніўся! Пасля ўцёкаў Вітаўта з Трокаў, гэтая магутная крэпасць без бою здалася. У ёй сеў Ягайлаў брат Скіргайла-Іван. Стары князь з сынам спаткаліся ў Горадні. Не было часу на дакоры ды нараканні — патрабавалася ўдумлівае і энергічнае дзеянне. Неабходная была звычайная вайсковая сіла. Вітаўт, знаходзячыся ў Горадні, пачаў сцягваць вояў са свайго ўдзелу. Кейстут жа падаўся за войскам у Жмудзь, а „жонку сваю паслаў у Бярэсце, спадзеючыся на князя Януша Мазавецкага, свайго зяця“, — паведамляе „Хроніка Быхаўца“.

Аднак няшчасці не любяць хадзіць па адным. Януш Мазавецкі палічыў, што цесцева імперыя рушыцца і цяпер якраз надараецца вельмі зручная нагода, каб што-небудзь уварваць для сябе са шваграўых уладанняў, як пасажную частку бацькаўшчыны для жонкі. А зяць, як вядома, любіць узяць...

Не паспела вялікая княгіня Кейстуціха прыбыць у Бярэсце, як грымнула звестка, што князь чэрскі Януш здабыў Дарагічын, паставіў у ім свой гарнізон і рушыў на Сураж. Гэтая крэпасць, хоць і з узмоцненай у мінулым годзе па загаду Вітаўта і пад яго наглядам высокай сцяной, таксама была захоплена мазаўшанамі. Заахвочаны такімі ўдачамі Януш, прайшоўшы праз нядаўна знішчожаны крыжакамі Бельск і заняўшы без бою яго яшчэ цалкам не адбудаваную крэпасць, прайшоўся па ўсёй Бельшчыне і атакаваў Камень. Слаба ўмацаванае места мазавецкія воі занялі з ходу, але крэпасць з магутнай муравай вежай стойка баранілася. Мазаўшане не сталі здабываць яе, палічыўшы, што ім і так удалося надзейна адрэзаць Берасцейшчыну і Дарагічыншчыну ад Гарадзеншчыны і наогул Вялікага княства. І Януш рынуўся на Бярэсце.

Аднак вялікая княгіня Кейстуціха была жонкай, дастойнай свайго ваяўнічага мужа. На вестку пра тое, што родны зяць займае Пабужжа і Панароўе, яна не разгубілася і, замест




здацца на зяцеву ласку, энергічна занялася ўмацаваннем Бярэсця, гуртаванне ў ім вайсковай сілы ды падрыхтоўкай берасцейскай крэпасці да працяглай абароны. І калі пад закрытымі брамамі Бярэсця з'явіўся на чале сваіх шматлікіх войск зяць, цешча сустрэла яго даждж0м стрэлаў ды камення з усіх бойніц.

Януш, вядома, не разлічваў на цешчына прывітанне з хлебам-соллю ды царкоўным звонам, але і не спадзяваўся, што бабулька здолее наладзіць такое заядлае супраціўленне. На яго прапанову, каб „матулька загадала ласкава вароцейка адчыніць ды зяцейка мілага ў госцейкі прыняць“, Кейстуціха загадала біць па Янушавым войску з чаго папала ды палаючай смалою палівадь. Але ж трапіла каса на камень. Зяць рашыў: чаго б гэта ні каштавала здабыць Бярэсце ды ўзяць цешчу ў палон. Акружыў берасцейскую крэпасць сціслай аблогай і загадаў браць яе прыступам. Крэпасць удала абаранялася, адбівала адзін наступ за другім.

Януш зняў аблогу толькі тады, калі дайшла да яго чутка, што старэнькі Любарт-Дзмітрый, князь валынскі, узняў сваіх вояў на дапамогу Кейстуту ды па дарозе на Трокі і Вільню загадаў дапамагчы ваяўнічай брацісе вызваліцца з зяцевага акружэння.

Кейстуціха і разам з ёю абаронцы крэпасці ўздыхнулі з па-

(Працяг са стар. 9)

## ЗАЛАТЫ ПТАХ

памочніка. А як зварыцца страва, то ўпусці ў яе па кропельцы жывой вады.

Навучыла ваўчыха Івана, што яму рабіць, і пабегла.

Вярнуўся Іван дадому. А там і праўда госці збіраюцца. Кухар аж разрываецца адзін — шмат розных страў трэба наварыць ды напячы для гасцей. Падышоў Іван да кухара:

— Давай я табе памагаць буду.

— Добра, — згадзіўся кухар, — памагай, бо мне аднаму не ўправіцца.

Узяўся Іван памагаць. А потым і кажа кухару:

— Ты, дзядзька, стары, змарыўся, адпачні, а я ўжо сам усё скончу.

Бачыць кухар, што памочнік яго добра стараецца, і лёг адпачыць.

Згатаваў Іван абед, уліў у кожную страву па кроплі жывой вады і пабудзіў кухара. Той панёс абед да сталоў.

Бяседнікі ядуць і стравы хваляць — вельмі ж усё смачна згатавана!

Пасля абеду кліча гаспадар кухара, дае яму гасцінца і дзякуе за смачныя стравы. Кухар кажа:

— Гэта ж тут адзін хлопец у мяне за памочніка быў, дык ён і наварыў такіх смачных страў. Сам я гатаваць гэтак не ўмею.

Гаспадар кажа:

— Дык пакліч яго да мяне, трэба і яму падзякаваць.

Паклікалі Івана. Гаспадар пытаецца:

— Дзе ты навучыўся такія смачныя стравы варыць?

— Бяда ўсяму навучыць, — адказвае Іван.

— Якая ж у цябе, хлопча, бяда?

Іван і расказаў пра тое, як ён залатога птаха дастаў, як братоў у караля выкупіў і як яны яго забілі, а добрая ваўчыха ажывіла...

Стаяць браты моўчкі, белыя як палатно, а бацька пытаецца:

— Дык гэта ж ты, мусіць, мой меншы сын Іван?

— Але, — кажа Іван. — Я птаха дастаў і слова стрымаў, а яны — браты мае разумныя — ліхадзеі!

Выгнаў бацька старэйшых сыноў з дому, а з Іванам і цяпер жыве.

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА“!

Я хачу перапісвацца з дзяўчатамі з Польшчы. Мне 11 год. Ад сваіх сяброваk я хачу даведацца, якую музыку яны любяць, што любяць рабіць, якім спортам займаюцца, як вучацца?

Я займаюся баскетболам, хіба перайду ў спартыўны клас, калі пазволяць бацькі. Мне падабаюцца і іншыя віды спорту. Яшчэ я катаюся на лыжах, на каньках, гуляю ў настольны тэніс. Люблю фатаграфаваць.

Я добра вучуся. Люблю музыку, асабліва „Мадэрн токінг“. Збіраю паштоўкі, наклейкі, каляндарыкі. Люблю хадзіць у кіно і тэатр. Люблю глядзець па тэлевізары мульцікі.

Магу перапісвацца на беларускай і рускай мовах.

Мой адрас: 220131, БССР, г. Мінск, вул. Мірашнічэнка, д. 43, кв. 59. Языковіч Вольга.

## Вясёлы куточак

* * *

Хлопчык хваліцца:

— Тата, я навучыўся пісаць.

— І што ж ты напісаў?

— Не ведаю, бо яшчэ не ўмею чытаць.

* * *

Настаўнік: Чаму ў старых горах рэдкімі бываюць землятрэсенні, а ў маладых — частымі?

Вучань: Бо старыя горы ўжо пэратрасліся.

* * *

Настаўнік: Для чаго мы вывучаем аксіёмы?

Вучань: Каб іх не даказваць.

* * *

Бабуля пытае ўнучку:

— Навошта ты будзіш брацікa?

Унучка адказвае:

— Хачу сказаць, каб ён яшчэ паспаў.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 55. Юля Малашчанка, 4 клас.

* * *

Данута Ільяшук, Клейнікі 232 17-208 Клейнікі, Беластоцкае ваяв., Польшча. Хоча пазнаёміцца з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ і з СССР. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36 вул. Хмялеўскага, 38, кв. 35. Антон Несцярэнка, 4 клас.

* * *

БССР,220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 80, кв. 57. Таня Ананіч, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 53. Аксана Урбан, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 22. Таня Лескавец, 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 44. Наташа Шаўлюга, 6 клас.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, пер. Гожы, 5, кв. 2, Іна Зіневіч, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, БЛК-18, кв. 58, Вольга Цярэнцьева, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна БЛК-4, кв. 12в, Сяргей Жвалеўскі, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, БЛК-20, кв. 53, Юля Прасолава, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Горкага, 24, кв. 2. Сяргей Орлюк, 4 кл.

* * *

БССР, 230009, г. Гродна, вул. Каліноўскага, 5, кв. 54, Саша Ралінскі, 4 кл.

* * *

БССР, 230029, г. Гродна 3 пер. Серафімовіча д. 6, Уладзіслаў Гапонік.

## БАРЫСАЎКА

(Працяг са стар. 9)

ных тэатраў. Што будзем ставіць — яшчэ не ведаю, але напэўна будзе гэта п'еса з дзіцячай тэматыкі.

Найгорш бывае з „акцёрамі“. У нашай школе ўсяго 32 вучні (кл. 1-9, кл. II — няма зусім, кл. III — 6, кл. IV — няма, кл. V — 5, кл. VI — няма, кл. VII — 7, кл. VIII — 4). Працуем, праўдападобна, апошні год. Школа ў Барысаўцы прызначаецца да ліквідацыі.

У маім тэатры выступаюць усе дзеці, бо я не маю выбару. Калі маем дасягненні, то толькі дзякуючы пастаянным рэпетыцыям, на якіх вучымся гаварыць, хадзіць, жэстыкуляваць, перамагаць сорам і несмеласць перад публічным выступленнем.

Дзеці наогул ахвотна прымаюць удзел у пастаноўках. Часам слабыя вучні добра адыгрываюць свае ролі“.

Барысаўскія добрыя артысты, якія выступілі ў дасканалай пастаноўцы Валянціны Дмітрук „У Ліхадзеевым палоне“, закончылі восьмы клас пачатковай школы і раз'ехаліся па іншых школах. Цяжка было б нават і сабраць іх цяпер, хочучы паказаць гэтую п'есу. Валянціна Дмітрук новыя свае пастаноўкі будзе рэалізаваць з новымі вучнямі. Такі парадак школы. Жадаем ёй далейшых вялікіх поспехаў. (вв)

Фота В. Кандрацюка



*Сцэнка ў лесе. Сярод звяроў неспакойна... Што будзе? Злева: Анна Яканюк, Галіна Бірылка, Ян Каролька.*



*Чорныя характары, з якімі змагаюцца і якіх перамагаюць дружна ўсе іншыя жыхары лесу. Злева: Ліхадзей (Міраслава Кіцэль) і Чорны Воран (ІвонаХіліманюк).*

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| К, | О | Н | О | А | А | М | О |
| Н | Ч | Н | Д | А | Ц | Н | Е |
| Е | О | Р | Ч | М | Д | У | В |
| Р | Я | Д | У | К. | К | Г | А |

ключ

З дапамогай ключа расшыфруйце загадку — гэта адна руская прымаўка, звязаная з частым летнім заняткам хлопцаў.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15 951 Białystok, ul Wesołow...

## ПРА СВАЯКА, СВАЯЧКУ І ЗВЫЧАЙНУЮ КАЧКУ

— Ну што табе даць? — у турботах
сваячка
свайго сваяка гарадскога пытае, —
зарэзала б качку —
не выпадае:
занадта худая;
і гусак таксама не рэжу цяпер я:
худыя ўсе — косці ды пер'е,
крыху падкармлю, а тады й забярэш.
Сваяк гаварыць аж не можа ад смеху,
ды кажа:
— Канечне, нічога не рэж,
я не за прадуктамі ехаў.
Другі раз наведаў сваячку сваяк,
прывёз падарункі,
ласункі,
каньяк.
дравец накалоў ёй, і дрэўцы садзіў,
і ў лес па грыбы са сваячкай хадзіў,
а толькі прыходзіць пара ад'язджаць —
пытае сваячка:
— Ну што табе даць?
Зарэзала б качку, дык здохла, халера.
а гускі эдзічэлі
і ў свет паляцелі,
ужо выбачай, што не складна ўсё так.
Паехаў сваяк.
А неяк у горад яна завітала,
прывозіла яблыкі — утаргавала —
і не абышла сваяка: як-ніяк
шчыруе,
частуе
сваяк.
Калі павячэралі, кажа сваячка:
— А зараз пара мне цябе пакідаць...
Сваяк усміхнуўся:
— Ну што табе даць?
Даў бы каўбаскі — не выпадае:
занадта худая.
— Яна ж не паправіцца, пойдзе
й такая...
— Пойдзе то пойдзе, — гаворыць
сваяк, —
універсам зачынілі, аднак.

**Васіль Жуковіч**



Без слоў

# НІЎКА

З суседскага агародчыка.




— Тата, пайсці мне, здаць экзамен, ці што?
— Ляжы, сынок, я ўжо здаў.

### СУСТРЭЧА

У рэчцы сустрэліся дзве слязіны.
— Я слязіна жанчыны, якую пакінуў муж, — сказала адна.
— А я слязіна жанчыны, якая знайшла мужа, — сказала другая.

### ПАСЛУХМЯНЫ

— Міколка, ты сказаў, што купіш толькі адно марожанае.
— Я так і зрабіў, бабусю!
— А дзе ж рэшта з грошай, што я табе дала?
— На рэшту прадаўшчыца дала мне яшчэ марожанага.

### УДАКЛАДНІЎ

— Калі хочаце вылечыцца, — гаворыць лекар, — вы павінны кінуць піць.
— Зразумела, доктар, — пагадзіўся хворы. — А што вы маеце на ўвазе: каньяк ці гарэлку?

Без слоў



Ён хварэў толькі таму, што ўсё жыццё прысвяціў свайму здароўю.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Божа мой! — усклікнула жонка. — Мы не запрасілі цётку Мары на пікнік! Недакладна пазвані ёй, уяўляеш, якая была б смяротная крыўда!

Муж пазваніў цётцы Мары і запрасіў яе на пікнік.

— Дзякуй, але я не прыйду. Вы пазванілі надта позна. Я ўжо памалілася, каб быў дождж.

*

Рыбак доўга мяняў нажыўку, ад чарвякоў да кашы, але паплавок увесь час быў нерухомы. Урэшце, страціўшы надзею, ён выцягнуў з кішэні манету ў дзесяць франкаў, шпурнуў яе ў ваду і прамармытаў:

— Трымайце і купіце сабе самі што захочаце!

*

Яна: — У цябе багата бедных родзічаў?
Ён! — Я не ведаю ніводнага.
Яна: — А багатых?
Ён: — Ніводзін не ведае мяне.

### ДАПАМОГ

Старая маці дровы коле,
Ад стомы ўжо не чуе рук.
Дарослы ж сын яе Мікола
У цяньку разлёгся, бы
вяпрук.

Паспаўшы ўволю, ён
з сякерай
Прыйшоў да мацеры сваёй.
Яна ж вачам сваім не верыць:
Няўжо сынок паможа ёй?

Ды кажа сын: „Цябе, матуля,
Шкада мне стала аж да слёз,
Таму больш вострую, другую
Сякеру я табе прынёс.

**А. Капацкевіч**

З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЕ ПРАВІЛА...

...уведзена ў магазіне „Прадукты": калі пакупнік пачаў пісаць скаргу на прадаўшчыка, то гэты прадаўшчык неадкладна знімаецца з працы да той пары, пакуль пакупнік не закончыць пісаць скаргу і не пакіне магазін.



Без слоў

„Крытыкуйце мяне", — сказаў шчупак жабам. „Навошта табе крытыка?" — здзівілася чарапаха. „Крытыка не патрэбна, — адказаў шчупак, — крыкуноў хачу ведаць".

*

Падрахунак. За тое, што майстар абдурвае кліентаў, яго пазбавілі прэміі на пяцьдзесят працэнтаў. Але тое, што майстар выдурвае з кліентаў, пераўзыходзіць прэмію на пяцьсот працэнтаў.

*

Узыходжанне: на карачках, на кукішках, на дыбачках, на катурнах, на хадулях, на чужым гарбе, на плячах блізкіх, па галовах, на макаўцы!

**Марцін Коўзкі**




Без слоў

# Курёзы

### ПЕВЕНЬ — ВЫКІДАЛА

На брамках і платах вялікага горада Беластока яшчэ часта можна ўбачыць перасцерагальны надпіс: „Асцярожна, злосны сабака!" А вось рэстаран з заходненямецкага горада Масбаха вывесіў на сцяне сваёй фірмы такую таблічку: „Увага, злосны певень!" Зроблена гэта не дзеля жарту і не ў рэкламных мэтах. Певень ужо сапраўды падзюбаў некалькіх наведвальнікаў, якія зайшлі на панадворак рэстарана.



### З ЖЫЦЦЯ ВЯЛІКІХ

На камзоле нямецкага філосафа І. Канта неяк нечакана прадраўся локаць. Сустрэўшы яго, прыдворны прусак з'едліва заўважыў:

— Вучонасць, здаецца, выглядае адтуль?

— Ніколечкі, — адказаў філосаф. — Гэта глупства туды заглядвае.




**Калі дрэнныя звычкі ў цябе ў крыві — зрабі пераліванне крыві.**